

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№1 (201) СТУДЗЕНЬ 2016 ГОД


У ЦЭТРЫ ЎВАГІ

# ВІНАВАТЫХ ШУКАЦЬ НЕ БУДУЦЬ

**Днямі адбылася сустрэча старшыні Шумілінскага райвыканкама Аляксандра Снарава з кіраўнікамі і спецыялістамі ААТ "Аграбаравінка". Гаспадарка прыйшла ў заняпад, а працоўны калектыў не атрымлівае заробкі.**

Так, размова адбылася шчырая і сур'ёзная.

Некалі адна з лепшых гаспадарак раёна, у якой быў пабудаваны першы аграгарадок і буйны малочна-таварны комплекс, у апошні час прыйшла ў заняпад. І цяпер навідавоку з'явіліся прыкметы безгаспадарчасці, а ў працаўнікоў ужо апусціліся рукі.

Менавіта гэта і стала падставай для сустрэчы, у якой таксама ўдзельнічалі старшыня раённага Савета дэпутатаў Ірына Новікава, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама В. Мянькоў, пракурор раёна С. Зайцаў, начальнік РАУС А. Дзмітрэнка, іншыя спецыялісты райсельгасхарчу, раённых службаў.

У ходзе размовы не раз падкрэслівалася, што цяпер бракуе часу, каб шукаць вінаватых і безгаспадарчасці. Таму кіраўнік раёна запатрабаваў прыступіць да справы адразу пасля сходу. Пры гэтым тэрмінова вырашаць праблемы: ўцяпляць фермы, наводзіць парадак у майстэрнях, збіраць тэхніку, прыступаць да яе рамонту.

Нават сціплымі фінансамі гаспадаркі таксама трэба правільна распараджацца! Як адзначыў старшыня Шумілінскага райвыканкама Аляксандр Снараў, неабходна вызначыць прыярытэтныя напрамкі.

І зноў такі, паводле меркаванняў новага кіраўніка раёна, пачынаць трэба з элементарнай працоўнай і вытворчай дысцыпліны, з навядзення агульнага парадку на вытворчых аб'ектах. А калі не атрымалася стварыць сістэму працы, дык трэба пераходзіць на "ручны рэжым кіравання".

На сённяшні дзень вельмі актуальнае пытанне – гэта своесчасовая выплата заработнай платы. Як вядома, кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка не раз падкрэсліваў, што "кожны рубель павінен быць зароблены". Гэты тэзіс пакуль ніхто не адмяняў, гэта закон эканомікі. Як можна налічыць заробак за месяц, да напрыкладу, на 800 мільёнаў рублёў, калі прадукцыі прададзена ўсяго на 500 мільёнаў? І няма ў запасе лішкаў збожжа, рапсу ці іншай прадукцыі, каб можна было пакрыць розніцу?

Значыць трэба аптымізаваць колькасць работнікаў і працоўны час. Працей кажучы, скарачаць рабочых. Хто вырабляе прадукцыю, а гэта цяпер работнікі жывёлагадоўлі, той і павінен атрымліваць зарплату ў поўным аб'ёме за атрыманую прадукцыю, астатнія – па мінімуму. Інакш сельскагаспадарчаму прадпрыемству выжыць немагчыма.

Пры гэтым, вырашаючы аператыўныя штодзённыя пытанні, трэба думаць і працаваць на перспектыву. Атрымаць прадукцыю раслінаводства з запасам, які дазволіць вырашаць надзённыя праблемы. Нарыхтаваць дастаткова кармоў і належнага якасці. Атрымліваць прадукцыю жывёлагадоўлі высокай якасці, што дасць дадатковыя грашовыя паступленні. Працаваць на аднаўленне статка, захаваць маладняк, бо без гэтага гаспадарка не мае будучыні.

Падводзячы вынікі нарады, Аляксандр Снараў адзначыў, што ўвесь працоўны калектыў гаспадаркі павінен быць адзінай камандай, якая працуе на агульны вынік. А раённыя ўлады будуць па магчымасці падтрымліваць гаспадарку, але толькі калі будуць відаць пазітыўныя зрухі, калі будзе прадукцыя.

У выніку выходзіць: няма прадукцыі – няма зарплаты. Падзенне вытворчасці – скарачэнне работнікаў і беспрацоўе. Тыя асобы з кіраўніцтва, хто давёў гаспадарку да банкруцтва – за гэта адказваць не будуць А замест налічанай зарплаты – дысцыпліна і парадак. І новае начальства. Зноў замкнёнае кола.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

НАШ САЙТ

# ТОР-10 НАВІН НА САЙЦЕ SHUMILINA.BY

**Традыцыйна прапануем чытачам shumilina.by ўспомніць самыя папулярныя матэрыялы адыходзячага 2015 года. Прадстаўляем вашай увазе ТОР 10 навінаў сайта, якія сабралі найбольшую колькасць праглядаў.**

Усяго за 2015 год на сайце было размешчана 370 нататак пра падзеі ў Шуміліне, аб сацыяльна -эканамічным развіцці Шумілінскага раёна, нашай краіны. Гэта крыху большая колькасць, што і ў 2014 годзе. А гэта сведчанне пра нашу стабільную дзейнасць. Якімі навінамі найбольш цікавіліся жыхары Шумілінкшчыны? Несумненна, эканамічным становішчам раёна, заробкамі яго жыхароў, палітычнымі дзеячамі, вулічнымі краявідамі Шуміліна, рэальным жыццем людзей, дэмаграфічнай сітуацыяй, здарэннямі і злачыннасцю.

Артыкул, які быў найбольш папулярны на сайце ў 2015 годзе, сабраў на гэты час 625 праглядаў і з'яўляецца лідэрам адыходзячага года. "Шумілінскі раён – найбяднейшы ў Беларусі".

Шумілінщчына трапіла ў лік дзесяці "самых бедных" рэгіёнаў рэспублікі, у які ўваходзяць і шэсць раёнаў Віцебскай вобласці з самымі нізкімі заробкамі.

І таму мы друкуем інфармацыю аб ТОП-10 самых папулярных навінаў адыйшоўшага года па выбару нашых чытачоў.

Найбольш папулярныя публікацыі 2015 года зараз выглядаюць наступным чынам.

10 месца – 465 праглядаў. "Непрацуючы разбураў дэкаратыўную агароджу." shumilina.by/bel/навіны/здарэння/755

9 месца – 470 праглядаў. "Школьнікі выратавалі стадыён." shumilina.by/bel/навіны/грамадства/630

8 месца – 505 праглядаў. "Смяротнасць і старэнне насельніцтва не выклікае аптымізму". shumilina.by/rus/новости/общество/552

7 месца - 526 праглядаў. "Пажар у навагоднюю ноч". shumilina.by/bel/навіны/здарэння/540

6 месца - 551 прагляд. "У Шуміліне гарэла кватэра". shumilina.by/bel/навіны/здарэння/642

5 месца - 561 прагляд. "Укралі салярку". shumilina.by/bel/навіны/здарэння/670

4 месца - 575 праглядаў. "На дарогах райцэнтра." shumilina.by/bel/навіны/грамадства/605

3 месца - 583 прагляды. "Задуменны Лукашэнка і Коля на Годзе Алімпіяды ў Сочы" (фотафакт). shumilina.by/bel/навіны/палітыка/570/comments

2 месца - 592 прагляды. "Паўсюдная рэальнасць: за 37 гадоў – 2,6 мільёны пенсіі і 2 памперсы ў дзень." shumilina.by/bel/навіны/грамадства/673

1 месца - 625 праглядаў. "Шумілінскі раён – найбяднейшы ў Беларусі". shumilina.by/bel/навіны/эканоміка/545

**Аляксандр Шчамлёў**

РЫНАК ПРАЦЫ

# ВАКАНСІІ НА ПАЧАТАК СТУДЗЕНЯ

**У агульнарэспубліканскай базе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны па Шумілінскаму раёну на сённяшні дзень маецца ўсяго толькі 28 вакансій на 40 вольных месцаў. Аклады паранейшаму сціплыя.**

Сярод абноўленых прапаноў па стану на 11 студзеня 2016 года ў раёне першае месца па традыцыі належыць Шумілінскай раённай бальніцы, дзе заўсёды востра адчуваецца дэфіцыт дактароў і малодшага медперсанала.

Сюды на працу запрашаюць 12 спецыялістаў: шасцёра фельчараў (усім аклад па 5 мільёнаў рублёў), чатырох урачоў: (ўрач-спецыяліст, стаматолаг, эндакрынолаг, анэстэзіёлаг – заробкі адпаведна па 4,5 млн. рублёў). Таксама патрабуецца адна медыцынская сястра з аплатай у 3,5 млн. і адзін слесар-электрык па рамонце электраабсталявання (2,3 млн.). г. п. Шуміліна, вул. Суворава 1. тэл. 8 02130 4-15-07

Сельская гаспадарка раёна па-ранейшаму шукае найперш высокакваліфікаваныя кадры. Саўгас "Ульскі" запрашае на працу галоўнага ветэрынарнага ўрача с акладам у 5,5 млн.рублёў, галоўнага інжынера – 5 млн., галоўнага эканаміста – 5 млн., галоўнага бухгалтара – 5,5 млн. Адукацыя вышэйшая. Вёска Кардон, тэл. 8 02130 3 87 41.

У Шумілінскі "Райаграсервіс" патрабуюцца: галоўны бухгалтар (4,5 млн.) і намеснік галоўнага бухгалтара ( 3,5 млн.).

ААТ "Прыазёрны мір" запрашае на працу галоўнага ветерынарнага ўрача ( 5,3 млн) і галоўнага бухгалтара (5,3 млн.).Адукацыя вышэйшая. тэл. 8 02130 4-11-76

У КУГСП "Сіроцінскі" чакаюць ветэрынарнага ўрача ( 3,3 млн.) і галоўнага заатэхніка з вышэйшай адукацыяй ( 3,3 млн.). тэл. 8 02130 3 35 10.

У ААТ "Ляжні запрашаюць на работу двух жывёлаводаў з агульнай базавай адукацыяй. Заробак па 3,5 млн. рублёў. тэл. 8 02130 3 45 41.

У сялянска-фермерскую гаспадарку Юрыя Сямёнава "Крыніца" патрабуецца галоўны эканаміст з вышэйшай адукацыяй (аклад 4 млн. руб.).тэл. 8 02130 5-10-41.

У аддзел адукацыі спорта і турызма Шумілінскага райвыканкама патрабуецца музычны кіраўнік з сярэднеспецыяльнай адукацыяй (2,8 млн.) і педагог-псіхолаг (2,9 млн.). тэл. 8 02130 4-22-37.

Шумілінскі райбыткамбінат запрашае на працу галоўнага бухгалтара, адукацыя вышэйшая (4 млн.). Патрабуецца прыёмшчык заказаў у вёску Кардон з агульнасярэдняй адукацыяй ( 2,3 млн.) тэл. 8 02130 4 15 44.

У Беларусбанк, ЦБУ №225, г.п. Шуміліна, ул.Ленінская, д.31 патрабуюцца два галоўныя спецыялісты з вышэйшай адукацыяй (3,7 млн.) і спецыяліст па аказанню банкаўскіх паслуг, адукацыя вышэйшая ( 3 млн. руб.). тэл. 8 02130 4-25-54.

Шумілінскаму райспажыўсаюзу не хапае двух прадаўцоў з прафесійна-

***(працяг на стар. 2)***

## РЫНАК ПРАЦЫ

*(пачатак на стр. 1)* тэхнічнай адукацыяй. Заробкі па 3,5 млн. руб. тэл. 8 02130 4-16-64.

У Шумілінскі лясгас запрашаюць інжынера па аўтаматызаваным сістэмам кіравання вытворчасцю з вышэйшай адукацыяй. Аклад – 3,2 млн. тэл. 8 02130 4-55-38

У дзяржаўную ўстанову "Шумілінскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі" патрабуецца фельчар-лабарант з сярэдняй адукацыяй (2,5 млн.). тэл. 8 02130 4-41-14

"Белдзяржстрах" аддзяленне прадстаўніцва запрашае двух страхавых агентаў з сярэднеспецыяльнай адукацыяй ( 2,3 млн.) тэл. 8 02130 4-19-52

Інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Шумілінскім раёне патрабуецца начальнік аддзела (начальнік аддзела кантролю за юрыдычнымі асобамі). Адукацыя – вышэйшая, аклад – 2,8 млн. рублёў. тэл. 8 02130 4-23-46

Варта адзначыць, што ў асноўным сярэдняя зарплата спецыялістаў, якіх запрашаюць на пасаду – вельмі сціплыя. Ад 2,3 мільёнаў рублёў да 5,5 мільёнаў рублёў. Як бачна, у звязку з высокім ростам цэн на тавары і паслугі гэта чыста сімвалічныя грошы.

**Алесь Шумскі**

## ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# НА ПАЖАРАХ ЗАГІНУЛА ТРЫ ЧАЛАВЕКА

**За чатыры дні ў Віцебскай вобласці адбылося 20 пажараў, з іх тры здарыліся на Шумілiншчыне. Удалося выратаваць пенсіянера з задымленай зоны ў весцы Слабада.**

3 студзеня ў 10-00 ў цэнтр аператыўнага кіравання Лепельскага РАНС паступіла паведамленне аб пажары ў доме ў в. Чарады Стайскага сельсавета па вул. Лепельскай.

Пасля прыбыцця да месца выкліку 2-х АЦ ПАВЧ-1 Лепельскага РАНС назіралася адкрытае гарэнне даху, моцнае задымленне ў доме. У доме пражывае дачка гаспадыні, 1979 г.н., на момант пажару адсутнічала дома, з'ехала да маці ў горад Лепель.

У 10-13 звяном ГДЗС на другім паверсе на падлозе каля акна знойдзены труп былога мужа дачкі гаспадыні, які ў хаце не пражываў. Са слоў суседзяў па месцы жыхарства загінулы характарызаваўся адмоўна, злоўжываў спіртнымі напоямі, стаяў на ўліку ў РАУС, як асоба, якая злоўжывае спіртнымі напоямі. Разгляданая версія ўзнікнення пажару - неасцярожнае абыходжанне з агнём загінулага.

3 студзеня ў 04-22 ў ЦАК Аршанскага ГРАНС паступіла паведамленне аб пажары ў доме ў г. Оршы па 2-му зав. Будаўнічаму. Пасля прыбыцця да месца выкліку 2-х АЦ ПАВЧ-2 Аршанскага ГРАНС назіралася адкрытае гарэнне дома, адбылося абвальванне даху.

Са слоў гаспадара, зімой у хаце ніхто не пражываў. У 05-26 на падлозе ў пакоі дома знойдзены труп мужчыны, як мяркуецца з'яўляецца братам гаспадара. Прычына пажару высвятляецца. Разгляданая версія ўзнікнення пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём загінулага.

А вось 1 студзеня шумілінскім ратавальнікам удалося выратаваць жыхара кватэры па вуліцы Афанасьева ў в. Слабада Сіроцінскага сельсавета Шумілінскага раёна.

Пасля прыбыцця да месца выкліку ў 11-08 2-х АЦ ПАСЧ-1 Шумілінскага РАНС назіралася задымленне ў кватэры, размешчанай на першым паверсе васьміkватэрнага жылога дома.

Гаспадар, 1952 г.н., пенсіянер, пражывае адзін. На момант узнікнення пажару знаходзіўся ў доме. Работнікамі МНС у складзе звяна ГДЗС вынесены з задымленай зоны гаспадар, які знаходзіўся ў пярэднім пакоі на падлозе ў стане алкагольнага ап'янення. Не пацярпеў. Са слоў суседзяў вёў асацыяльны лад жыцця (злоўжываў спіртнымі напоямі, курыў). У выніку пажару ў кватэры пашкоджаны 1 кв.метр полу. Прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні гаспадара.

**Паводле матэрыялаў Віцебскага АУМНС**

## ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# РАТАВАЛЬНІКІ ПАДВЯЛІ ВЫНІКІ

**12 студзеня адбылася нарада па падвядзенні вынікаў працы калектыву Шумілінскага раённага аддзела надзвычайных сітуацый за мінулы год. У мерапрыемстве прыняў удзел першы намеснік начальніка ўстановы «Віцебскае абласное ўпраўленне МНС» Дзмітрый Панцюхоў.**

Былі разгледжаны пытанні папярэджання ўзнікнення надзвычайных сітуацый і гатоўнасць да іх ліквідацыі.

Далей Дзмітрый Панцюхоў і намеснік начальніка раённага аддзела Рыгор Жук правялі сустрэчу ў працоўным калектыве «Шумілінская раённая гімназія-інтэрнат» у весцы Лескавічы. Усім прысутным была даведзена інфармацыя аб сітуацыі з пажарамі і гібеллю людзей на іх на тэрыторыі раёна, прывёў канкрэтныя прыклады. Таксама былі прааналізаваны асноўныя прычыны ўзнікнення пажараў.

У сваю чаргу Дзмітрый Панцюхоў нагадаў прысутным аб правілах пажарнай бяспекі, эксплуатацыі пячнога ацяплення і электраправодкі. Пры гэтым распавёў пра важнасць ўстаноўкі аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, іншых сродкаў абвесткі пра ўзгаранні, правілах іх эксплуатацыі і мерах адказнасці за парушэнні правілаў пажарнай бяспекі. Яшчэ раз нагадаў правілы карыстання першаснымі сродкамі пажаратушэння. Прычым асаблівую ўвагу завострыў на праблеме дзіцячага траўматызму і гібелі дзяцей на пажарах, недапушчальнасці пакідання іх без нагляду.

У сувязі з пераменамі надвор'я Дзмітрый Васільевіч асвятліў пытанні захавання правілаў бяспечных паводзін на вадаёмах у зімовы перыяд і небяспекі выхаду на лёд, аб недапушчэнні абмаражэнняў і пераахаладжэнняў у моцныя маразы.

Як правіла, акрамя пажараў, існуюць і іншыя надзвычайныя сітуацыі, у выпадку ўзнікнення якіх мясцовых жыхароў папярэджваюць з дапамогай сістэмы абвесткі аб насоўванні небяспекі. Яе прамое прызначэнне заключаецца ў тым, каб даць насельніцтву магчымасць аператыўна прыняць неабходныя меры абароны.

На заканчэнне ўвазе работнікаў раённай гімназіі быў прадэманстраваны відэафільм «Увага ўсім!»

Падводзячы вынікі працы шумілінскіх ратавальнікаў мінулага 2015 года, Дзмітрый Васільевіч адказаў актуальныя пытанні і заклікаў прысутных выконваць меры пажарнай бяспекі ў побыце і на працоўных месцах.

**Ян Вайтовіч**

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ПРЫДЗВІНСКАЯ АБАРОНА

**Якія страты нясе гаспадарка пры парушэнні тэхналогіі захоўвання фуражу? Такое пытанне задаў падначаленым дырэктар ААТ «Прыдзвінскі» Уладзімір Дзятлаў.**

Разлікі здзівілі: толькі з-за адсутнасці сянажных траншэй – ад 10 да 15 працэнтаў. Потым гэта не лепшым чынам адбівалася на прадуктыўнасці дойнага статка. Паводле дырэктара, калі павялічваць надоі малака, наводзіць парадак, для пачатку трэба пабудаваць хаця б некалькі сянажных траншэй. Выдаткі невялікія, а аддачу можна атрымаць істотную. Пабудавалі пакуль шэсць. На чарзе – яшчэ дзве.

– Калі мы нарыхтоўвалі каля 10 тысяч тон травяных кармоў, – разважаў Уладзімір Іванавіч, – то гублялі каля 700 мільёнаў рублёў. Каб кампенсаваць гэтыя страты малаком, трэба было даіць кароў не менш за два тыдні. У выніку павялічваўся сабекошт прадукцыі, зніжалася эфектыўнасць галіны. Як вынік – значная частка выдаткаў на нарыхтоўку кармоў не акупалася.

На пытанне «Якія паказчыкі важней – вытворчыя або эфектыўнасці?» Кіраўнік адказаў дыпламатычна: і тыя, і іншыя. Яны дапаўняюць адзін аднаго. Пры гэтым трэба павялічваць надоі і лічыць, у што яны абыходзяцца, на чым можна эканоміць і за кошт чаго дадаць. І калі ў структуры сабекошту малака і мяса дамінуюць кармы, то неабходна ўдасканальваць структуру кармавой базы.

Задача няпростая. Адзін з варыянтаў – скарачэнне пасеваў кукурузы. У гэтым годзе яна не апраўдала надзей. Прычым не толькі ў «Прыдзвінскім». Зацяжная халодная вясна, а потым спякота і дэфіцыт вільгаці не дазволілі нарыхтаваць неабходнай колькасці сіласу. Аднаго дажджу за сезон для раёна было недастаткова. Калі ў мінулым годзе ўраджайнасць зялёнай масы кукурузы была больш за 240 цэнтнераў з гектара, то ў гэтым – прыкладна ў два разы менш. Ужо ў пачатку яна пачала адставаць у росце. Менш была і ўраджайнасць травы.

Таму добрай дапамогай для «Прыдзвінскага» апынуўся леташні рэшту прыкладна дзве тысячы тон травяных кармоў. Палову гэтай колькасці гаспадарка гатова прадаваць. Пакупнікі знойдуцца. Але ўжо вырашана аднназначна – прадаваць фураж толькі сельгаспрадпрыемствам Шумілінскага раёна.

– Малако для нас – крыніца жыцця, – прыводзіў разлікі Уладзімір Дзятлаў. – За 11 месяцаў ад яго рэалізацыі нагандлявалі 5,4 мільярды рублёў пры агульнай выручцы прыкладна ў 13 мільярдаў. Такой колькасці грошай дастаткова для выплаты зарплаты і вырашэнні некаторых неадкладных задач. Толькі за апошні месяц на малацэ зарабілі каля 720 мільёнаў рублёў. Замала. Каб атрымліваць хоць бы мільярд, трэба мець гадавую прадуктыўнасць дойнага статка 3600–4000 кілаграмаў.

Рэнтабельнасць гэтай прадукцыі – 27 працэнтаў. Калі нарошчваць пагалоўе, то спатрэбіцца і больш кармоў. Таму адзіна правільны шлях – павялічваць прадуктыўнасць, у тым ліку і за кошт паляпшэння структуры кармавога поля. За 11 месяцаў «Прыдзвінскі» павялічыў вытворчасць малака амаль на працэнтаў – да 13096 цэнтнераў, а надой ад каровы – адпаведна на 38 працэнтаў і да 2573 кілаграмаў. На жывёлагадоўчым комплексе нядаўна запусцілі даільную залу. Павялічыліся надоі, палепшылася якасць малака.

Зрабілі рэканструкцыю двух жывёлагадоўчых памяшканняў, уклалі больш за два мільярды рублёў. Абышліся без крэдытаў. Адна з першарадных задач, на рашэнне якой гаспадаркі арыентуюць абл- і райвыканкамы, – падкарэктаваць структуру кармавога поля. Пад ураджай будучага года ў раёне павялічаны пасевы рапсу, каб больш атрымаць шроту. Культура для рэгіёну рызыкоўная, не заўсёды спрыяльна пераносіла зіму. Але заведама высейваць мінімальную колькасць – гэта значыць, загадзя ствараць для сябе праблемы. Гаспадарка можа павялічыць колькасць аднагадовых траў ад 800–1000 гектараў да 2,5 тысячы. Гэта дазволіць нарасціць запасы бялку. Праўда, меней да 3 тысяч гектараў прыйдзецца на "каралеву палёў".

Пашырыцца поле шматгадовых траў. У Шумілінскім раёне ёсць насенняводчая гаспадарка, якое гатова забяспечыць шматгадовымі і аднагадовымі травамі пад поўную патрэбнасць. Гаспадаркі заключылі дагаворы на іх абмен збожжавымі культурамі. Справа цяпер за малым – рэалізацыяй задуманага і захаваннем тэхналагічных патрабаванняў.

У студзені сельгаспрадпрыемствы правядуць абарону планаў на наступны год: хто колькі разлічвае сеяць якіх культур, які сабраць ураджай, колькі атрымаць малака, мяса, за кошт чаго павялічыць іх вытворчасць. Пры гэтым абавязкова будуць улічвацца паказчыкі эфектыўнасці. Павінна працаваць эканоміка!

**"Беларуская ніва"**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

КОНСЕРВАЦИЯ БЕЛАРУСИ

# ЛУКАШЕНКО УПОВАЕТ НА НЕБЕСА

**Приход в храм на православное Рождество белорусский официальный лидер традиционно использовал для политических заявлений. По его словам, демократии в Беларуси не меньше, чем у других; рушить ничего не будем; все, что создано народом, не будет продаваться за бесценок; наконец, самое главное право — это право жить.**

Вообще тема мира и стабильности доминировала, что легко объяснимо: в плане благосостояния предъявить электорату нечего, и завтра, судя по всему, пояса придется затянуть еще туже.

Поэтому в речах, прозвучавших 7 января из уст Александра Лукашенко на рождественском богослужении в Свято-Духовом кафедральном соборе Минска, последовательно проводилась мысль: тут не до жиру, слава богу, что нет войны.

Ну, и подтекстом — смекните, мол, кого следует благодарить за мудрую политику. И не возбухайте особо, что кошелек тощает. Вон украинцам еще хуже.

**Прошла весна, настало лето, спасибо партии за это**

«Лишь бы не было войны» — это последовательная пиаровская линия белорусского руководства на фоне вхождения страны в глубокий экономический кризис.

В сентябре, перед президентскими выборами, в таком же духе провели «Молитву за Беларусь», поставив в центре мероприятия главного светского начальника. А перед Новым годом президент даже детям на елке твердил про украинских беженцев, подчеркивая, что «наше главное достояние — это мир, который мы сберегли».

Вообще-то войны на нашей земле нет уже более семи десятилетий. Бог миловал даже при Советском Союзе, когда БССР представляла собой огромный арсенал ядерного оружия и, соответственно, была объектом тщательно спланированных ударов с другой стороны в случае, если начнется заварушка по полной программе.

Теперь же той биполярной схемы нет. В нашей конституции как цель записан нейтральный статус. Другое дело, что на практике тесная военная интеграция с Москвой отдалила нас от этой цели.

И вот если Владимир Путин продавит-таки размещение в Бобруйске российской авиабазы (которая способна стать аэродромом подскока и для ядерных ракетоносцев), то Беларусь рискует вернуться во времена холодной войны и снова стать целью ответных ударов.

Но этот риск — прямое следствие слишком далеко зашедших интеграционных игр с Кремлем, в которые уже двадцать лет играет нынешнее белорусское руководство. Так что особо благодарить его тут не за что.

**Демократию уже построили. Вольно, можно курить**

Да, после Крыма чувство самосохранения у властей сработало. В награду за особую позицию по Украине Минск получил заморозку санкций и перспективу нормализации отношений с Евросоюзом и США.

Но этот чисто геополитический, вынужденный ход западников Лукашенко трактует хитро. Он заявил ныне в храме, что «…критики, которые нас подвергали избиению в этом вопросе, сегодня умолкли, убедившись в том, что и демократии, и прав человека в Беларуси не меньше, чем у других».

Правда, президент тут же свел на нет красиво выстроенный софизм, дав весьма убогую трактовку демократии и прав человека: «И самое главное — это право жить».

Живут и в тюрьме, однако это не означает, что там расцвет прав и свобод.

«Никому не нужна такая демократия, где каждый день на улице стреляют и убивают за год сотни тысяч людей», — добавил президент для пущей убедительности.

Но в демократических странах войн нет. Если же происходят кровавые теракты, то это отнюдь не порождение демократии, а человеконенавистничество, привнесенное извне. Если говорить об Украине (где жертв ужасно много, но все же не сотни тысяч), то она едва лишь собралась идти в Европу, как получила крымский и донбасский «подарочки» отнюдь не со стороны демократического мира.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**

**http://naviny.by**

ВЫНІКІ

# 10 ДОБРЫХ НАВІНАЎ, ЗА ЯКІЯ ВАРТА ПАДНЯЦЬ КЕЛІХ

**Праблема беларускіх навінаў у тым, што пазытыўным альбо негатыўным лічыцца тое, чаго не адбылося. Але ня толькі. Радыё Свабода згадала добрыя навіны сыходзячага году.**

**Год глябальнай беларускай культуры**

Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію. Гэта падзея ня толькі 2015-га, значнасьць яшчэ давядзецца ацаніць. Агулам для беларускай культуры гэта год міжнародных дасягненьняў — Brutto Міхалка скарае Украіну, Свабодны тэатар Брытанію і ЗША, Віктара Марціновіча ставяць у Вене.

**Тое, чаго не адбылося**

У Беларусі не паўстала расейскай вайсковай базы, краіна не ўцягнулася ў канфлікты, разьвязаныя Масквой і нават стала пляцоўкай для перамоваў па Ўкраіне. Менск наведалі Алянд і Мэркель, тут былі падпісаныя дамовы па ўрэгуляваньні крызісу на Данбасе. З таго, што магло здарыцца і добра, што так ня выйшла, — улады не пайшлі на стрымліваньне курсу рубля (прывітаньне, 2011-ты) і не арыштавалі апанэнтаў пасьля прэзыдэнцкіх выбараў (згадаем 2006-ты і 2010-ты).

А з таго, што не адбылося, але добра, што хаця б чакалася — магчымыя рынкавыя рэформы. Пра гэта чыноўнікі хаця б пачалі размаўляць.

**Бліжэй да Эўропы**

Раней быў распаўсюджаны выраз пра тое, што Беларусь адстае ад Захаду на 50 год. Магчыма, жывучы ва ўмоўным Глуску ў гэта цяжка верыць, але часавую адлегласьць усё ж трэба скарачаць — буйныя гарады жывуць у рытме сусьветных падзеяў: у нас стартуюць афіцыйныя продажы новых айфонаў, на беларускі рынак прыходзіць Uber, у сталіцы запускаюць 4G, разьліваецца бясплатная кола ў Burger King і KFC, а ўнівэрсытэты нарэшце ў Балёнскім працэсе. Які-небудзь год дакладна стане годам пераможнай глябалізацыі, калі ўсё стане відавочным, а пакуль яна проста істотна набліжаецца.

**Бліжэй да суседзяў**

Яно, вядома, непрыемна, што толькі апошнія дзесяць год з нашай сумеснай васемсотгадовай беларуска-віленскай гісторыі нам трэба віза, каб трапіць у Літву, але ў 2016 мы сталі бліжэй і да суседзяў: Лічба выдаваных візаў набліжаецца да мільёна ў год, па колькасьці «шэнгенак» мы даўно на першым месцы ў сьвеце, а сёлета толькі палепшылі паказчыкі. У нас паўстаюць візавыя цэнтры, а зь Менску штодня дзейнічаюць тры рэйсы ў Кіеў, адчыніліся кірункі ў Днепрапятроўск і Івана-Франкоўск. Вядзецца пра пачатак вяшчаньня ўкраінскага тэлеканалу.

**Пагоня — побач!**

Трэнд на нацыянальныя ўзоры на вопратцы і беларускую мову абазначыўся яшчэ ў 2014-м, а ў 2015-м бел-чырвоныя колеры пачалі паяўляцца паўсюль: на аўто і матацыклах, прыватных дамах, бялізьне, запалках, упакоўцы малака. БРСМ падтрымлівае Арт-сядзібу, тэлевядучая Ганна Бонд бярэ ўдзел у акцыі ў падтрымку кадэтаў з «Пагоняй» (не ў эфіры, але), Румас заступаецца за фанатаў у шаліках з нацыянальных гербам, бел-чырвона-белыя сьцягі мірна суіснуюць з чырвона-зялёнымі на выбарчых пікетах. Што будзе далей? Будзе лепш.

**Вызвалілі і не пасадзілі**

Ужо згадвалася, што добрай навіной можна лічыць тое, што новых палітвязьняў не зьявілася пасьля выбараў. А да выбараў выйшлі старыя. Упершыню за сем год у краіне не існуе людзей, якія за свае погляды знаходзяцца за кратамі. Мітынгі не разганялі падчас выбарачнай кампаніі, але ня сталі разганяць і пасьля. Беларусь стала больш інтэнсіўна кантактаваць з Эўропай і ЗША, і што з гэтага атрымаецца — пытаньне году наступнага.

**Музыкі ў «шэрым сьпісе»**

Вольскі можа выступаць у Беларусі (прынамсі, у мэтро:)), Brutto — яшчэ не. Кіно Курэйчыка з музыкай ад Neuro Dubel ня толькі паказваюць у асноўнай праграме на дзяржаўным фэстывалі «Лістапад», але нават арганізуюць дадатковы паказ. Хаця наўрад ці ў Менску легальна дазволяць існаваць «Свабоднаму тэатру». То бок, пра скасаваньне цэнзуры казаць няк нельга, забароненыя творцы засталіся (а ў Лёндане нават прайшоў культурны марафон з гэтай нагоды, арганізаваны тым жа Свабодным тэатрам), але сьпісы дакладна ўжо не наскрозь чорныя. Магчыма, там стала больш адценьняў шэрага.

Рэйтынг

Аўтарытарны палітычны рэжым вучыць таму, што любыя навіны могуць успрымацца пазытыўна. Лукашэнка перамог на недэмакратычных выбарах і, магчыма, будзе кіраваць краінай рэкордныя 26 год. Гэта сумная навіна, але тое, што на гэтых выбарах, паводле вынікаў апытаньня НІСЭПД, ён перамог ня так «элегантна» — навіна добрая і абнадзейваючая. Фактычна апошняя значная палітычная навіна 2015-га — на выбарах за дзейснага прэзыдэнта прагаласавала каля трацiны (!) беларусаў, а дэмакратычная кандыдатка Тацяна Караткевіч мела падтрымку мільёна выбаршчыкаў. Гэтыя дадзеныя карэлююць з дасьледаваньнем Gallup.

*(скарочана)*

**http://www.svaboda.or**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКІ РУХ

# ІП ЯК ЛЮСТЭРКА ГРАМАДЗТВА

**Гучыць нямала разважаньняў пра тое, што можа абурыць беларусаў. Даволі распаўсюджаная думка, што беларускія грамадзяне ня будуць пратэставаць з-за каштоўнасьцяў, але калі закрануць іхнія матэрыяльныя інтарэсы, то тады нікому мала не падасца.**

Гэтыя развагі варта прыгадаць цяпер, калі на вачах разгортваецца драма індывідуальных прадпрымальнікаў (ІП). Ня першы раз улада імкнецца выштурхаць гэты сацыяльны слой з эканомікі краіны. І ўвесь час ІП актыўна пратэставалі. І амаль заўсёды акцыі пратэсту заканчваліся тым, што ўлады саступалі, часткупатрабаваньняў ІП задавальнялі.

Цяпер гаворка ідзе фактычна пра ліквідацыю ІП як клясы. Здавалася б, і адказ прадпрымальнікаў будзе адпаведны. Але ўсё адбываецца з дакладнасьцю да наадварот.

Чытаючы рэпартажы журналістаў незалежных мэдыяў з рынкаў пасьля Новага году, я зьвярнуў увагу вось на якую акалічнасьць. ІП адмаўляюцца кантактаваць з прадстаўнікамі СМІ, катэгарычна ня хочуць, каб іх здымалі на камэру, фатаграфавалі. Рэдкія прадпрымальнікі гатовыя нешта сказаць ананімна, пры ўмове, што іхнія прозьвішчы ні ў якім разе ня будуць названыя.

Здавалася б, чаго вы баіцеся? Вас штучна выкідваюць з рынкаў, пазбаўляюць магчымасьці працаваць, зарабляць. У такой сытуацыі чаго яшчэ можна баяцца, што можа здарыцца горшае? Але не — маўчаць, «каб чаго ня выйшла».

Парадокс сытуацыі ў тым, што ў выніку прэзыдэнцкага ўказу № 222 ня толькі ІП страцяць магчымасьць працаваць, але і гаспадары рынкаў рызыкуюць стаць банкрутамі. Бо калі прадпрымальнікі сыдуць, то хто будзе плаціць арэндную плату? Вось, напрыклад, дырэктар Чэрвеньскага рынку Генадзь Фінскі ў камэнтары журналісту «Нашай нівы» кажа: «Магу сказаць, што калі праект указу ў бліжэйшы час ня будзе зьменены, то мы, арганізацыя „Чэрвеньскі рынак“, будзем падаваць на банкруцтва, паколькі ня зможам плаціць па рахунках». Тым ня менш у сваёй большасьці гаспадары рынкаў, як і ІП, дзейнічаюць паводле прынцыпу: будзем паміраць, але ціха.

Даволі паказальным стаў Антыкрызісны форум прадпрымальнікаў 11 студзеня. Найбольшы водгук у зале выклікала прапанова прадпрымальніцы Сьвятланы Калачовай з Гомеля, якая зьвярнулася да Лукашэнкі: «Вам фальшыва чыноўнікі прадстаўляюць інфармацыю. Каму выгадна сутыкаць ваш народ з уладай? Аляксандар Рыгоравіч, умяшайцеся ў сытуацыю. Пачуйце нас, калі ласка».

Калі вядомы актывіст прадпрымальніцкага руху Аляксандар Макаеў прапанаваў дзейнічаць больш рашуча і 18 студзеня правесьці мітынг пратэсту на Кастрычніцкай плошчы, грамада яго не падтрымала. Больш за тое, кіраўнік арганізацыі «Пэрспэктыва» Анатоль Шумчанка прапанаваў вывесьці Макаева з залі, аўдыторыя ўхваліла такі заклік. «Гэта подла... Гэта правакатары і падонкі», — заявіў Шумчанка.

Падаецца, нешта фатальна незваротнае адбываецца ў беларускім грамадзтве. І сытуацыя з ІП — толькі красамоўная ілюстрацыя да гэтага працэсу.

**Валер Карбалевіч**

ЭКАНОМІКА

# ИТОГИ-2015: БЕДНОСТЬ, ЗАВИСИМОСТЬ И ЛОМКА

**Нынешний год оголил реальные возможности белорусской экономики. Доходы населения в долларовом выражении упали практически до уровня кризисного 2011 года. В стране на разных уровнях началась «ломка» — новая жизнь вызывает глубокую депрессию, а жить по-старому уже не по карману.**

**Бедность наступает**

Любая семья в стране заботится о своем благосостоянии, а без качественных импортных товаров, цены на которые привязаны к курсу доллара, обеспечить достойный уровень жизни вряд ли получится.

Так что правильно, на наш взгляд, оценивать доходы населения именно в условных единицах, которые реально отражают покупательную способность населения.

В долларовом выражении зарплаты белорусов за последний год существенно просели. Так, если в ноябре 2014 года средняя зарплата (по среднемесячному курсу) составляла 575,4 доллара, то в ноябре 2015 года — 379,6 доллара (к слову: четыре года назад, в декабре 2011-го, после резкой девальвации белорусы получали почти столько же — 342 доллара).

Как видим, в долларовом выражении средняя зарплата в стране за последний год снизилась более чем на 50%.

Белорусские аналитики не ожидают, что в будущем году доходы населения станут расти.

«Население получит либо снижение доходов в реальном выражении, либо их стагнацию», — считает экономист Антон Болточко.

В 2016 году произойдет минимум 10-процентное снижение доходов населения, придерживается пессимистичного прогноза руководитель Научного исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук.

«Беларусь отстает от России по темпам снижения реальных доходов населения. Поскольку рынок восточного соседа является основным нашим рынком сбыта, затраты предприятий на оплату труда придется снижать, чтобы поддерживать конкурентоспособность продукции в России», — аргументирует свой прогноз Ярослав Романчук.

По его мнению, уровень бедности в Беларуси в будущем году будет расширяться, и каждый пятый белорус может оказаться у ее черты.

К слову, российские эксперты также ожидают, что армия бедных в России может заметно расшириться.

«В случае затяжной рецессии почти 30% российских домохозяйств имеют высокие риски бедности и при неблагоприятных социально-экономических сценариях могут пополнить ряды бедных», — говорится в декабрьском докладе Аналитического центра при правительстве России.

Учитывая высокую зависимость Минска от Москвы, рост армии бедных в России неминуемо отразится и на Беларуси.

**Последствия хронической зависимости**

Уходящий год продемонстрировал высокую зависимость белорусской экономики от событий в России.

Помнится, еще в 2014-м белорусские власти пытались убеждать население в том, что девальвация в России не обязательно ведет к ослаблению белорусского рубля.

«Почему мы должны бежать за российским рублем?» — задавала риторический вопрос журналистам год назад тогдашняя глава Нацбанка Надежда Ермакова, комментируя необходимость ослабления белорусского рубля вслед за девальвацией в России.

В 2015 году от былой самостоятельности курсовой политики не осталось и следа. Ослабление российского рубля в уходящем году практически всегда приводило к девальвации белорусской валюты.

Высокая зависимость Беларуси от России в этом году подтверждается корреляцией и других ключевых показателей. При снижении ВВП России в январе-ноябре на 3,8% (оценка российского «Внешэкономбанка») белорусский ВВП упал на 3,9% за аналогичный период.

Таким образом, уходящий год наглядно продемонстрировал, что может происходить с формально независимой белорусской экономикой в случае проблем на восточном направлении.

«Александр Лукашенко на днях сказал, что будущий год будет очень сложным из-за обвала в России. Белорусские власти собственноручно вымостили дорогу к такому безрадостному сценарию развития событий. В будущем году у нас будет, вероятнее всего, рецессия на уровне 3-5%», — полагает Ярослав Романчук.

Экономист констатирует, что пока власти прилагают недостаточно усилий для того, чтобы переориентировать экономику на другие рынки.

«Когда мы 20 лет ориентировались на Россию, диверсификация требует времени, а пока не видно свидетельств в пользу того, что мы сможем это сделать», — констатирует Романчук.

*(скарочана)*

**Дмитрий Заяц**
**http://naviny.by**

НАША ПЕРАМОГА?

# ПОБЕДУ НА ТУРНИРЕ ПРИНЕС ПРОФЕССИОНАЛЬНЫЙ ХОККЕИСТ

**Рождественский международный турнир любителей хоккея на приз президента Республики Беларусь окончательно превращается в фарс. В финале этих соревнований вечером 7 января играли команды Александра Лукашенко и Финляндии. Победу одержали хозяева льда, но как!**

Изначально за как бы любительскую дружину главы Беларуси играли 7 действующих хоккеистов: Леонид Гришукевич, Андрей Глебов, Алексей Плотников, Роман Сальников, Сергей Заделенов, Евгений Курилин и Вячеслав Лисичкин. По ходу турнира команду пополнили еще 3 профессионала: Александр Рядинский, украинец (!) Олег Шафаренко и швед Даниэль Корсо, на сомнительных основаниях получивший белорусское гражданство.

Но даже такими силами еле-еле удалось одолеть финских ветеранов. Скандинавы открыли счет уже в начале матча и выигрывали большую его часть. Лишь в конце второго периода защитник «Гомеля» Андрей Глебов восстановил равновесие. Ассистентские баллы в этой комбинации записали на свой счет Вячеслав Лисичкин и Даниэль Корсо, выступающие соответственно за гродненский «Неман» и минскую «Юность».

Победная шайба была заброшена в третьем периоде. Голевую атаку начал нападающий новополоцкого «Химика-СКА» Сергей Заделенов, продолжил Вячеслав Лисичкин, а завершил Даниэль Корсо. На последнем остановимся чуть подробнее: вообще-то по национальности этот хоккеист – канадец. С Беларусью его связывает непродолжительная побывка в минском «Динамо» (сезон 2011/12), а также женитьба на нашей соотечественнице.

Несколько месяцев назад Корсо объявился в «Юности», ради выступления за которую ему на сомнительных основаниях в сверхсрочном порядке предоставили белорусское гражданство. Такой вот «белорус-любитель».

Сам Лукашенко в финале на льду появлялся редко, особенно во втором и третьем периодах. Глава государства объяснил это проблемами со здоровьем (цитируется по БЕЛТА): «Я же на уколах играю. Колено повредил во второй игре, поэтому пришлось выходить не так часто, и не должен был мешать команде. Тренер сократил и начал тремя тройками играть, оставил самых быстрых, самых лучших, кому выходить на лед. Мы же здесь не показухой занимаемся, а работаем… XII Рождественский турнир запомнился мне тем, что появились очень сильные команды, которые могут спокойно играть в чемпионатах своих стран, в чемпионате Беларуси уж точно».

Лукашенко не преминул подчеркнуть якобы колоссальную популярность турнира у болельщиков: «Знаю, что даже лишний билетик спрашивали на матчи». В реальности же трибуны заполнялись посредством принудительного привода учеников школ и работников предприятий.

Интернет отреагировал на турнир с иронией и сарказмом. В частности, пользователь твиттера под ником Грустный Коленька написал: «Кстати, папа в хоккей может играть во много раз лучше, просто боится, что его заберут в НХЛ и не на кого будет оставить страну».

**Михаил Миронович**
**http://gazetaby.com/**

БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# СПОР О СКИДКАХ НА ГАЗ

**Беларусь и Россия не договорились о скидках на газ. Украина отказалась от предложенной Медведевым скидки на газ. Как сообщил заместитель министра энергетики России Анатолий Яновский, Беларусь в 2016 году будет получать газ по контрактной цене. Украина не будет покупать газ в России с предложенной скидкой — закупки в Европе обходятся дешевле, заявил премьер Арсений Яценюк**

**Беларусь и Россия не договорились о скидках на газ**

«Не договорились», — прокомментировал ситуацию с обсуждением вопроса о скидках Яновский в ходе выступления на Гайдаровском форуме, сообщает Прайм-ТАСС. Российский чиновник также добавил, что «есть контрактная цена (по ней сейчас платят. — Ред.)».

О том, что цена на российский газ для Беларуси в 2016 году может «чуть-чуть» снизиться, в конце декабря минувшего года в эфире телеканала ОНТ заявил российский посол Александр Суриков.

«Сейчас $ 142 за тыс. куб. м. Где-то в районе от $ 140 до $ 135 может оказаться, потому что движение на мировых рынках — вниз», — сказал Суриков.

Ранее заместитель премьер-министра Беларуси Владимир Семашко отмечал, что сейчас есть все основания для снижения цены на газ.

«Мы полагаем, есть все основания говорить о том, что с 1 января должна существенно снизиться цена на газ. Хотя и сегодня она приемлемая: если быть точным, она составляет 142 доллара 37 центов за 1 тыс. кубометров», — сказал Владимир Семашко 16 декабря журналистам.

TUT.BY

**Украина отказалась от предложенной Медведевым скидки на газ**

Украина не будет покупать газ в России с предложенной скидкой — закупки в Европе обходятся дешевле, заявил премьер Арсений Яценюк. 1 января Дмитрий Медведев снизил цену для Украины с $230 до $212 за тысячу кубометров

Власти Украины отказались от предложенной Россией скидки на газ. Об этом заявил премьер-министр страны Арсений Яценюк.

«1 января они (РФ) выставили счет с ценой газа 212 долларов за тысячу кубических метров. Мы не покупаем газ в России, потому что мы покупаем газ в Европейском союзе дешевле, чем нам предложила Россия. Средняя стоимость приобретения газа в Европейском союзе — около 200 долларов», — передает заявление Яценюка «Интерфакс».

Сейчас в подземных газовых хранилищах накоплено 14 млрд куб. м газа. «Это на 2,3 млрд больше, чем в прошлом году», — добавил украинский премьер-министр.

Предоставить скидку на газ в размере $17,7 за тыс. куб. м распорядился председатель правительства России Дмитрий Медведев. 1 января 2016 года было опубликовано соответствующее постановление о размере пошлины при поставках газа. Таким образом, цена газа составила $212,3 за тыс. куб. м.

С начала 2015 года Украина увеличила закупки газа в Европе почти в два раза. Так, с начала 2015 года она закупила 10,2 млрд куб. м газа. Годом ранее — около 5,1 млрд куб. м, заявляла компания «Укртрансгаз». О том, что газ в Европе более дешевый, говорил и ранее глава «Нафтогаза Украины» Андрей Коболев. Газ Киеву продают «более десяти контрагентов».

«Европейский рынок газа очень изменился в последние годы. Он стал более гибким, в игру вступили новые поставщики, новые поставщики СПГ ожидаются в этом месяце в Европе. Все это позволяет нам покупать газ из различных источников», — заявил он.

**Григорий Набережнов**
**http://www.rbc.ru**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 16.01.2016 у 18.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.